Варшава,6.03.1987г.

# АПОШНІЯ ПАВЕДАМЛЕННІ

РАДА КУЛЬТУРЫ СТУДЭНТАЎ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ Ў ВАРШАВЕ

Сябры студэнты! Аддаем у Вашы рукі першы нумар лістоўкі "Апошнія паведамленні".Загалоўкам навязваем да ініцыятывы нашых старэйшых сяброў,арганізатараў Беларускага Аб'яднання Студэнтаў у 1981 годзе. Яны надрукавалі дзве такія лістоўкі.Ход гістарычных падзеяў у краіне спыніў выхад у свет наступных нумароў.Сёння з'явілася магчымасць адрадзіць гэтую карысную форму распаўсюджвання інфармацыі ў асяроддзі.

У ВАРШАВЕ ПРАПАНУЕМ :

Кожны чацвер у клубе БГКТ на вул. Сэнатарскай 8, у 6 гадзін вечара адбываюцца дыскусійныя вечары,з якіх удзельнікі выносяць шмат уражанняў і намнога ўзбагачаюць свае знанні ў галіне беларусікі. Паглыбляюць свае веды і праводзяць карысна час сярод нас.

10.03.87.

Аднаўляе дзейнасць студэнцкі хор.Рэпетыцыі будуць праводзіцца кожны аўторак.Хор не абмяжоўваецца толькі да беларускага рэпертуару.Падрабязныя інфармацыі можна атрымаць у студэнцкім доме на вул. Смычковай,пакой 94.

20.03.87.

У 7 гадзін вечара ў клубе "Сігма" /Кракоўскае Пшэдмесьце 24/ адбудзеццасустрэча з вядомай даследчыцай беларускіх спраў міжваеннага перыяду Аляксандрай Бергман.

23.03.87.

Кружок праваслаўных тэолагаў запрашае на штонядзельныя лекцыі этычна-рэлігійнага характару,якія будуць праводзіцца ў парафіяльным доме пры саборнай царкве /вул.Сверчаўскега 52/,пасля літургіі.У гэту нядзелю даклад на тэму:"Ці каханне можа быць грахам?".

4.04.87.

З гэтай суботы пачынаем арганізаваць штотыднявыя вечарынкі ў клубе БГКТ.Будзе можна весела правесці час пры беларускай музыцы,гарбатцы,паспяваць ды пагаварыць па-свойму аб сваіх цяжкіх справах.

# З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ
## 27 - 29.03.87.
## /Бельск/

Пачаткам беларускага студэнцкага руху ў пасляваеннай Польшчы быў БАС.Потым паўсталі арганізацыйныя формы ў рамках ЗПС.За 6 гадоў дзейнасці былі створаны асновы для актыўнага ўключэння маладога пакалення ў жыццё беларускай меншасці.

Студэнцкі рух абнімае ўсё большыя кругі моладзі /не толькі студэнтаў/.Можа ён пахваліцца многімі канкрэтнымі дасягненнямі - перад усім інтэграцыяй беларускай моладзі ў акадэміцкіх цэнтрах, вылучэннем яе з мора ананімнасці,у якім загінулі нашыя бацькі. Аднячасова нарасло многа праблем.Прыйшлі новыя людзі,якія замянілі старэйшых сяброў - заснавальнікаў руху.Надышоў час пагаварыць пра дасягненні і памылкі,як першых,так і другіх.Трэба ацаніць перыяд супрацоўніцтва са Згуртаваннем польскіх студэнтаў - арганізацыяй,якая дала нам праўную падставу існавання.Трэба задумацца ўжо над наступнай зменай,а што за тым ідзе,пашырыць сваю дзейнасць на вучняў сярэдніх школ.Добра было б,каб большую актыўнасць праявілі студэнты другіх,апрача Варшавы і Беластока,асяроддзяў.Прыйшоў час дакладна акрэсліць свае зносіны з БГКТ, а таксама з іншымі арганізацыямі.Вылічаць так можна было б яшчэ доўга,але вывад адзін: трэба нам сабрацца разам пры адным стале, пакінуць сваркі і асабістыя амбіцыі ды пагаварыць шчыра,без недамаўленняў,пра ўсе нашыя праблемы.Трэба таксама вырашыць кірунак далейшага развіцця.

Гэтай мэце мае служыць З'зд беларускіх студэнтаў у Бельску Падляшскім,які адбудзецца 27,28,29 сакавіка 1987г.Месцам з'езду выбраны старажытны беларускі горад,цяпер адзін з цэнтраў нашай малой Бацькаўшчыны.Хочам паказацца жыхарам Бельска,адзначыць сваю прысутнасць.Няхай з'езд будзе таксама ўкладам у духоўнае жыццё нашага рэгіёна,не так зноў і багатага.

Дэлегатам можа стаць кожны студэнт і абсальвент вышэйшай навучальнай установы,які закончыў навуку не раней чым 3 гады назад. Могуць імі быць таксама вучні апошніх класаў сярэдніх школ.Кожны дэлегат атрымае з'ездавы білет з правам голасу.

На з'езд запросім старэйшых сяброў - людзей,якія спрыяюць развіццю нашага руху.

З'езд будзе адкрытым форумам для ўсіх,дзе кожны зможа выказаць свой погляд.У галоўным з'езд - гэта платформа дыскусіі моладзі. Думаем,што нельга прайсці побач так важнай падзеі.Няхай удзел у з'ездзе кожны палічыць сваім абавязкам і прывілеем. Карыстайцеся прывілеямі,падпарадкуйцеся абавязкам !

# ПРАГРАМА КАНГРЭСУ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

## 28.03.1987г. /субота/

**10.00 - 10.30**

-рэгістрацыя ўдзельнікаў,
-выданне з'ездавых мандатаў /білетаў/,
-заплачэнне праграмных складчынаў.

**10.30 -11.30**

Адкрыццё з'езду:
-прывітанне ўдзельнікаў і гасцей,
-прадстаўленне парадку з'езду,
-уступнае слова,
-пакліканне адмысловых камісій,
-інфармацыйна-праграмны даклад: "За апошніх пяць гадоў - гісторыя беларускага студэнцкага руху ў сучаснай Польшчы".

**11.30 - 11.45**

Перапынак перад дэбатамі.

**11.45 -15.00**

З'ездавыя дэбаты - накрэсленне праграмных тэзісаў:

1/.Структуры і цяперышняе становішча беларускай студэнцкай арганізацыі ў Польшчы.
2/.БГКТ а моладзь - суадносіны ў мінулым і сёння.
3/.Утварэнне арганізацыйных форм дзейнасці ў новых акадэміцкіх цэнтрах Польшчы.
4/.Выдавецкая дзейнасць студэнтаў.
5/.Мерапрыемствы культурна-забаўнага характару арганізаваныя моладдзю.
6/.Турыстычная дзейнасць і перспектывы яе развіцця.
7/.Сітуацыя студэнтаў-беларусаў у Беластоку.
8/.Сувязі студэнтаў са школьнай і працуючай моладдзю.
9/.Кантакты і абмен з равеснікамі ў БССР.
10/.Праявы шкоднай і раскольнай дзейнасці ў асяроддзі.
11/.Праваслаўнае брацтва і яго адносіны да нацыянальнага пытання.
12/.Інфармацыя і прапаганда ў асяроддзі і між паасобнымі акадэміцкімі цэнтрамі.

I3/.Магчымасці і спробы аховы беларускай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны.
I4/.Мастацкая самадзейная творчасць студэнтаў.

I5.00 - I6.00

Перапынак на абед.

I6.00 - I9.00

Працяг дэбатаў:

-дыскусія над праграмнымі тэзісамі,
-новыя прапановы,
-свабодная дыскусія.

I9.00 - I9.30

Перапынак.

I9.30 - 2I.00

Выступленні бельскіх мастацкіх калектываў /удзельнікаў агляду "Беларуская песня '87"/

29.03.I987г./нядзеля/

I0.00 - I4.00

Працяг дэбатаў:
-дыскусія,
-прынятцё канчатковых пастаноў,
-афіцыйнае заканчэнне кангрэсу.

I4.00 - I5.00

Перапынак на абед

I5.00 - I7.00

Урачыстае заканчэнне з'езду -канцэрт маладзёжных калектываў.

Z-d Małej Poligr. U.W. zam. 271/87 n 200 egz. K-108